

Л ТАРАСЭВІЧ

# ПРОЦІТАНКАВАЯ абарона

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР

Л. ТАРАСЭВІЧ

# ПРОЦІТАНКАВАЯ АБАРОНА

Перакладу з рускай мовы **Змачынскі**

Дзяржаўнае Ваеннае Выдавецтва БССР

Менск—1933

**„Тэрасэвіч. „Процітанкавая абарона“.** Аўтар сьцісла і даволі папулярна расказвае, як трэба абараняцца ад танкаў. Больш падрабязна ён спыняецца пры гэтым на значэньні мясцовасьці для процітанкавай абароны, а таксама на агнявых, хімічных і інжынэрных сродках ПТА. У канцы брашуры аўтар каротка і толькі ў агульных рысах закранае процітанкавую абарону на маршы Брашура прызначана для малодшага камандзіра, але будзе карысна і сярэдняму начсаставу, як кароткая памятка па ПТА.

Тэхрэдакцыя.

Тэхрэдактар *А. Невяровіч*
Карэктура *А. Туміловіч*
Здана ў друк 28/XII—32 г.
Падпісана да друку ..................

# УСТУП

Канец сусьветнай імпэрыялістычнай вайны 1914-1918 г г. і, ў далейшым, увесь пэрыяд да сучаснага моманту характарызуецца вялізарным і хуткім разьвіцьцём новых тэхнічных сродкаў барацьбы, якія зусім зьмянілі ранейшае уяўленьне аб боі. Адным з такіх найбольш магутных тэхнічных сродкаў сучасных армій зьяўляюцца танкі. Асноўнае іх прызначэньне ў баі—праніканьне ў разьмяшчэньне праціўніка, зьнішчэньне яго агнявых сродкаў (кулямётаў, артылерыі), пракладаньне шляхоў сваёй пяхоце праз няпрыяцельскія драцяныя загароды, а таксама дзейства ў саставе мэханізаваных злучэньняў.

Танк становіць сабой браніраваную маторную павозку, узброеную кулямётамі і пушкамі. Дзякуючы наяўнасьці спэцыяльнага вусенічнага рухавіка, танк можа прасоўвацца па мясцовасьці без дарог, можа пераходзіць равы, ўзьбірацца на крутыя пад'ёмы; сілай свайго цяжару танк ломіць дрэвы (рыс. 1), рве драцяныя загароды і параўнальна лёгка праходзіць там, дзе вязнуць калёсныя машыны.



Рыс. 1. Цяжкі танк Віккерса валіць дрэва.

Першыя танкі былі ціхаходнымі (6—8 *км/гадз.*), лёгка расстрэльваліся артылерыяй і утваралі ў час руху вялікі шум, чым задоўга да свайго зьяўленьня папяраджалі праціўніка; іх рухавікі і вусеніцы часта ламаліся, і самае галоўнае—запас гаручага ў іх быў настолькі малы, што ад пункту забясьпечаньня яны маглі адрывацца ня больш, як на 20—25 *км.*

Аднак, гэтыя першыя танкі далі англійцам і французам вялікую карысьць.

У апошнія гады сусьветнай вайны і пасьля сканчэньня яе, танкавая справа бесьперапынна ўдасканальваецца: паляпшаюцца ня толькі тэхнічныя ўласьцівасьці і ўзбраеньне бранявых машын, але і распрацоўваюцца новыя спосабы

баявога ўжываньня іх, якія далёка зайшлі ўперад у параўнаньні з тактыкай танкаў часоў імпэрыялістычнай вайны.



Рыс. 2. Сярэдні танк Віккерса, „Марка С“.

У сучасны момант у большасьці армій адрозьніваюць 4 асноўных тыпы танкаў.

**Цяжкія**—вагою ад 30 да 75 *т*, узброеныя аднэй або дзьвюма 47-*мм* гарматамі і чатырма—дванаццацю кулямётамі (рыс. 2.)

**Сярэднія**—вагою ад 12 да 16 *т*., узброеныя аднэй пушкай і некалькімі кулямётамі (рыс. 2 і 3).

**Лёгкія**—вагою 6—8 *т*, узброеныя 37-*мм* пушкай і адным кулямётам (рыс. 4).

**Танкеткі**—вагою 1,5 *т*, з розным узбраеньнем, часьцей за ўсё—адным кулямётам (рыс. 5)



Рыс. 3. Сярэднi танк Вiккерса 1926 г. (Мэдыум Вiккерс)



Рыс. 4. Лёгкi танк Вiккерса.

Скорасьць сучасных танкаў даходзiць да 35—45 *км./гадз.*, у руху яны менш чутны i больш паваротлiвы, чым танкi старых узораў. Яны бяруць пад'ёмы да 45° круцiзны, пера-

магаюць водныя перашкоды глыбінёй ад 60 *см* (танкеткі) да 1,5 *м* (цяжкія танкі) і лёгка праходзяць праз акопы. Радыус іх дзейства, які залежыць ад запасу гаручага, даходзіць да 150—250 *км.*

Лепшым сродкам барацьбы з танкамі працiўнiка зяўляюцца танкі. Улічваючы гэта, мы на аснове вялізарных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва разьвіваем свае танкабудаваньне. Чырвоная армія мае танкі, танкеткі



Рыс. 5. Англійскал танкетка „Кардэн-Лойд".

і бронямашыны,якія па сваіх баявых і тэхнічных якасьцях ня ўступаюць лепшым узорам бранявых машын капіталістычных армій.

Але гэтага недастаткова. Для барацьбы з баявымі машынамі працiўнiка патрэбны ня толькі танкі. Неабходна старанная арганізацыя процітанкавай абароны, пабудававай на ўзаемадзействе бранявых, агнявых, інжынэрных, хімічных і раду іншых тэхнічных сродкаў барацьбы.

Адсюль задача для ўсяго саставу Чырвонай арміі—добра ведаць усе гэтыя сродкі барацьбы з танкамі і ўмець правільна ўжываць іх пры арганізацыі процітанкавай абароны.

У барацьбе з танкамі праціўніка асабліва адказную ролю прыдзецца выконваць малодшаму каманднаму саставу. Гэтая кніга мае мэтай падрыхтаваць малодшага камандзіра да гэтай ролі, даўшы яму асноўныя ўказаньні па ўсіх пытаньнях процітанкавай абароны.

## ЗНАЧЭНЬНЕ МЯСЦОВАСЬЦІ ДЛЯ ПТА І РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ ДЛЯ АБАРОНЫ

Адным з асноўных момантаў у арганізацыі абароны зьяўляецца выбар такой мясцовасьці, якая-б ускладняла праціўніку арганізацыю танкавай атакі.

З гэтай мэтай пажаданы выбар мясцовасьці якая: 1) мела-б як перад пярэднім краем, так і ў глыбіні абароны натуральныя перашкоды, якіх нельга або цяжка перамагчы (рэкі, асабліва з крутымі берагамі і мяккім, грузкім дном, балоты, яры з крутымі, стромкімі краямі, вялікі і густы лес і г. д.); 2) мела-б раёны, недаступныя для танкаў праціўніка і выгадныя для разьмяшчэньня сваіх ударных груп; 3) дазваляла-б у абароне мэтазгодна і скрыта разьмяшчаць процітанкавыя агнявыя сродкі; 4) пазбаўляла-б праціўніка выгадных скрытых подступаў і пазыцый для згрупаваньня на іх яго танкаў.

Разам з гэтым, пярэдні край абарончай паласы павінен забясьпечваць найлепшую арганізацыю кулямётнага і ружэйнага агню.

У адносінах да процітанкавых перашкод, батальёны, роты (эскадроны) і ўзводы трэба разьмяшчаць так, каб іх раёны мелі незанятыя палосы (так званыя „калідоры“), якія дазваляюць сваёй артылерыі бесь перашкодна




Рыс. 6. Схема разьмяшчэньня ў абароне 1 батальёна 28 с. п. „Калідор“

абстрэльваць танкі праціўніка, што бяруць або абходзяць перашкоды, і давалі-б магчымасьць „завязваць у агнявы мяшок“ пяхоту праціўніка, якая ідзе за танкамі (рыс. 6).

Разьмяшчэньне ў абароне не павінна дазваляць артылерыі праціўніка устанавіць граніцы абарончых раёнаў падразьдзяленьняў, а танкам—вызначыць натуральныя і штучныя перашкоды на шляху іх руху. З гэтай мэтай пяхотным падразьдзяленьням ня трэба разьмяшчацца выразна выяўленымі астраўкамі, унікаючы займаць рубяжы і пункты, якія занадта выдаюцца над паверхняй мясцовасьці (грэбні ўзвышшаў, краі яраў, паасобныя вышыні, курганы і г. д.). Усе гэтыя мясцовыя прадметы карысна абсталяваць фальшывымі збудаваньнямі і перашкодамі, якія маскіруюць сапраўднае разьмяшчэн. таго, хто абараняецца.

Абараняючыся ад танкаў, пяхота павінна заўсёды памятаць, што танк для яе ня страшны да тых пор, пакуль яна знаходзіцца ў добра пабудаваных і ўдала замаскіраваных акопах. З гэтай прычыны, пры разьмяшчэньні для абароны на пабудову і маскіроўку акопаў павінна быць зьвернута асаблівая ўвага.

Асноўнай небясьпекай для таго, хто абараняецца, зьяўляюцца ня танкі,а суправаджаючая іх пяхота. Улічваючы гэта, ў час атакі танкаў байцам ня трэба баяцца прапусьціць іх у глыбіню абарончага раёну; там з імі расправяцца спэцыяльныя процітанкавыя гар-

маты. Ўвага байцоў павінна быць накіравана на пяхоту праціўніка; захоўваючы спакойнасьць і вытрыманасьць і загадзя не выяўляючы сябе ў час руху танкаў, байцы павінны ўсёй магутнасьцю свайго ружэйна-кулямётнага агню накінуцца на пяхоту праціўніка, якая суправаджае танкі.

У непасрэдную барацьбу з танкамі пяхота ўступае толькі тады, калі яны выявілі разьмяшчэньне пяхотных падразьдзяленьняў, агнявых кропак і атакуюць іх.

Агонь артылерыі зьяўляецца адным з найбольш сапраўдных сродкаў барацьбы з танкамі.

Правільнае разьмяшчэньне паасобных гармат і батарэй, прадуманая і старанна падрыхтаваная арганізацыя артылерыйскага агню мае рашаючае значэньне для адбіцьця танкавай атакі. Гэта акалічнасьць патрабуе асабліва ўважлівых адносін да разьмяшчэньня артылерыі для абароны. Як правіла, артылерыя эшалёніруецца ў глыбіню з такім разьлікам, каб мець магчымасьць нават найбольш далёка-разьмешчанымі батарэямі і паасобнымі гарматамі паражаць сапраўдным агнём пяхоту і танкі праціўніка на подступах да пярэдняга краю і ўнутры абарончай паласы. Поблізу ад артылерыйскіх пазыцый не павінна быць укрытых подступаў, па якіх танкі маглі-б непрыкметна падысьці к пазыцыі на дыстанцыю сапраўднага агню з танку—300—600 м.

Як было ўжо ўжо сказана вышэй, доступ

для танкаў у раён абароны павінен быць, па магчымасьці, загароджаны натуральнымі перашкодамі (яры, рэчкі, балоты і да т. п.).




Рыс. 7. Процітанкавыя перашкоды пад абстрэлам агнявых сродкаў (ПТА)

Натуральныя перашкоды трэба ўзмацняць і дапаўняць перашкодамі штучнымі. Неабходна імкнуцца к таму, каб перад фронтам абароны была суцэльная паласа штучных і натуральных загарод для руху танкаў. Пры немагчымасьці стварыць суцэльную паласу загарод, перашкоды наладжваюцца на найбольш небясьпечных для нас і выгадных для праціўніка кірунках. Вучасткі, пазбаўленыя перашкод, узмацняюць агнём. Апрача таго, як правіла, усе процітанкавыя перашкоды павінны знаходзіцца пад падоўжным і скрыжаваным абстрэлам усіх агнявых сродкаў абароны (рыс. 7.)

## АГНЯВЫЯ СРОДКІ ПТА

Існуючыя сродкі барацьбы з танкамі можна падзяліць на актыўныя і пасыўныя. Актыўнымі або зьнішчальнымі сродкамі называюцца такія, якія могуць або зьнішчыць зусім, або вывесьці з строю (папсаваць) танк пра-

цiўнiка. Да iх будуць адносiцца: гарматы ўсiх калiбраў, у тым лiку i процiтанкавыя калiбрам 15—40 *мм*; танкi, узброеныя пушкамi; сярэднякалiбравыя 13—15-*мм* кулямёты; спэцыяльныя буйнакалiбравыя ружжы, ручныя гранаты, якiя трэба кiдаць зьвязкамi непасрэдна пад танкi па 3—5 штук; звычайныя кулямёты i вiнтоўкi, якiя страляюць бронябойнымi кулямi; ранцавыя агнямёты, мiны, фугасы, аэропляны, якiя атакуюць танкi, асаблiва ў момант iх перавозкi, або ў час стаянкi ў парку, а таксама ў момант iх разгортваньня перад атакай. Самымi асноўнымi актыўнымi ворагамi танкаў зьяўляюцца самi танкi, гарматы усiх калiбраў, а галоўнае—спэцыяльныя процiтанкавыя пушкi i кулямёты.

З найбольш характэрных чужаземных узораў сучасных процiтанкавых пушак i кулямётаў патрэбна указаць на наступныя: 20 *мм* пушка **Мадсэна** [1]) (рыс. 8): вага ў баявым палажэньнi 118 *кг*; хуткастрэльнасьць—каля 100 стрэлаў у мiнуту; прабiвае броню да 30 *мм* на 300 *м*; вага знараду—0,16 *кг*. Пушка можа быць скарыстана i для зэнiтнай стральбы з дадатковага спэцыяльнага лафэту стацыянарнага тыпу, якi ўстанаўлiваецца на зямлi, грузавiках, трактарах i да т. п. Хуткастрэльнасьць пры абстрэле паветраных цэляй—200 выстрэлаў у мiнуту. Дальнасьць сапраўднага зэнiтнага агню—3600 *м*.

[1]) Усе зьвесткi прыблiзныя.



Рыс. 8. Аўтаматычная пушка „Мадсэна".

20-*мм* пушка—кулямёт Эрлікона (рыс.9): вага 186 *кг;* хуткастрэльнасьць 280—300 выстрэлаў у мінуту; прабівае 30-*мм* броню (пры вугле сустрэчы 90⁰) на 500 *м* і 15-*мм* на 1200 *м*. Пушка забясьпечана полымятушыцелем, дзякуючы чаму пры стральбе з яе нявідаць агню; гэта ў значнай ступені палягчае маскіроўку і ўскладняе вызначэньне месцазнаходжаньня яе танкамі і артылерыяй наступаючага; у пярэдняй частцы ствала ёсьць



Рыс. 9. 20-*мм* пушка Эрлікона



Рыс. 10. Амэрыканскі кулямёт Браўнінга кал. 12,7 *мм*

канты для паветранага ахалоджваньня яго пры частай стральбе. Пушка мае спэцыяльную дадатковую ўстаноўку і можа ўжывацца і для барацьбы з самалётамі.

12,7-*мм* кулямёт Браунінга (Амэрыка) (рыс 10): вага 74 *кг* (ствол і трынога); найбольшая дальнасьць—3200 *м*; прабівае броню (пры вугле сустрэчы 90°) да 18 *мм* на 500 *м*.

Пасыўнымі або затрымліваючымі сродкамі называюцца такія, якія затрымліваюць або зьмяншаюць скорасьць руху танкаў. Сюды адносяцца натуральныя і штучныя перашкоды. Натуральныя перашкоды для танка: лясы, глыбокія рэчкі, балоты, яры з крутымі берагамі, крутыя пад'ёмы (больш 45°). Штучныя перашкоды: акопы, равы, канавы і ямы

з стромкімі сьценамі, пашыраныя да 5,5 *м* і паглыбленыя да 5 *м*, танкавыя пасткі (рыс. 11), засекі, надоўбы, пні дрэў, ямкі (так званы „лунны пэйзаж"), стромкія каменныя сьцены, агарожы, барыкады з падручнага матэрыялу і адкосы (рыс. 12). У гарыстай мясцовасьці адкосы і мелкія равы становяцца асабліва сапраўднымі: часта правядзеньне нязначных зямлякопных работ дае магчымасьць стварыць рад сапраўдных перашкод, якія могуць прывесьці к поўнаму зьнішчэньню танка. Усе штучныя перашкоды старанна маскіруюцца, каб яны да апошняй мінуты ня білі выяўлены танкамі праціўніка.

Улічваючы абмежаваную здольнасьць тан-



Рыс. 11. Танк у пастцы

каў да прасоўваньня праз равы, крутыя спускі і г. д., у сучасны момант за рубяжом практыкуюць пабудову трохкутных проціпанкавых равоў, у якіх кароткая і крутая сьценка на-



Рыс. 12. Адкосы

кіравана ў бок таго, хто абараняецца. Найменшая шырыня гэтых равоў проці лёгкіх танкаў робіцца ў 2, 5 *м* (рыс. 13).

Папаўшы ў такі роў, танк амаль ня можа



Рыс. 13. Равы трыкутнай формы

выбрацца з яго і адначасова становіць сабой выгадную нярухомую мішэнь для таго, хто абараняецца.

Танкавыя пасткі (сланёвыя ямы) выкопваюцца такой велічыні і глыбіні, каб у іх цалкам мог зьмясьціцца танк. Памер іх вызначаецца тыпам няпрыяцельскіх танкаў. Пры абароне раіцца такія пасткі рабіць у цясьнінах, на вуліцах населеных пунктаў і ў іншых вузкіх мясцох. Пасткі гэтыя павінны быць асабліва старанна замаскіраваны, інакш яны ня выканаюць свайго прызначэньня.

Маскіруючае перакрыцьце пастак робіцца з дзьвёх бэлек з дашчатай стольлю, з такім разьлікам, каб гэтая столь вытрымала груз павозкі і гарматы і правальвалася б толькі пад цяжкасьцю танкаў. Для лёгкіх танкаў перакрыцьцё павінна правальвацца пры нагрузцы ў 4,5 *т*, для цяжкіх у 10 *т*.

Пасткі робяцца на ўсю шырыню цясьніны, каб папярэдзіць абход іх танкамі. Калі гэтага зрабіць нельга, то каля яе, ўступам назад наладжваецца другая пастка, якая канчаткова перагараджае дарогу. На дне можна ўстанаўляць фугасы.

Зімою мэтазгодна наладжваць ледзяныя бар'еры проці танкаў. Яны робяцца наступным чынам: ставяцца два рады калоў на адлегласьці рад ад раду ня менш, чым на 0,86 *м*; паміж радамі кольляў накладваецца хворост, на які паступова накідваецца сьнег; апошні ўтоптваецца, паліваецца вадой. Кольля для трываласьці зьвязваюцца дротам.

Усё гэта засыпаецца зноў сьнегам, утрамбоўваецца і нанава паліваецца вадой. Утвараецца бар'ёр з сьнегу вышынёй 1,2 *м* і даўжынёй патрэбнай велічыні. Краі бар'ёру згладжваюцца, і весь ён маскіруецца сьнегам.

Лес, як перашкода для руху танкаў, разглядаецца ў залежнасьці ад таго, наколькі ён густы, а таксама, якая таўшчыня і вышыня дрэў. Танк можа валіць паасобныя дрэвы даволі значнай таўшчыні (сучасны цяжкі танк—да 80 *см*); аднак, калі ён натрапіць на некалькі, хоць-бы і значна больш тонкія дрэвы, танк будзе затрыманы. З другога боку, рэдкі лес, хоць-бы і з тоўстымі ствадамі дрэў, перашкодай для руху танкаў служыць ня будзе, бо танк можа ісьці паміж дрэў. Густыя лясы з сьцежкамі, калі па шырыні сваёй апошнія дастатковы для руху танкаў, лічацца праходнымі для апошніх. Хмызьняк не зьяўляецца перашкодай для танкаў, наадварот—ён іх маскіруе, але густы хвойны маладняк ужо будзе зьяўляцца перашкодай для лёгкага танку.

Танкі з посьпехам могуць перамагаць у брод водныя перашкоды пэўнай глыбіні з цьвёрдым або камяністым дном. Праходнасьць танкам глыбіні залежыць ад тыпу самаго танку. Для сучасных танкаў максымальна праходная глыбіня 70-150 *см* (лёгкія і цяжкія).

Гразь аказвае нязначны ўплыў толькі на хуткасьць руху танка. Не выключаецца маг-

чымасьць руху танкаў і па балотах, вядома, дастаткова сухіх, па якіх могуць праходзіць пяшком людзі, пры ўмове, калі на глыбіні, даступнай для танка, маецца цьвёрдае дно.

## АРГАНІЗАЦЫЯ ПТА

Як-жа наладжваць процітанкавую абарону і ў чым канкрэтна яна павінна заключацца.

Адзначаючы моцныя ўласьцівасьці танкаў, мы бачым, што броня робіць яго малапараджальным для куль і асколкаў; стральба па танках наогул ускладняецца хуткасьцю руху танкаў, і чым хутчэйшы рух танка, тым меншая імавернасьць пападаньня.

Разьбіраючы-ж слабыя бакі танка, можам адзначыць, што ён адчувальны да рознага роду перашкод; дзякуючы броні, танк глух; нават разрыў знараду ён чуе толькі на самай блізкай адлегласьці; танк блізарук, бо праз шчыліны кепска відаць і цяжка назіраць; ён сьцішае ход пры руху на гару.

Усё гэта ўказвае нам на неабходнасьць так абсталяваць раён абароны, каб стварыць як мага больш розных перашкод, якія застаўляюць танкі рабіць розныя павароты, губляць арыентыроўку, сьцішаць рух, а часам нават і спыняцца. Злучаючы штучныя перашкоды з натуральнымі, якія маюцца на мясцовасьці, трэба адначасова злучыць

пасыўную абарону з актыўнай. Для апошняйжа неабходна, каб кожная перашкода, якая спыняе танк, затрымлівае яго рух або прымушае яго рабіць паварот для абходу, абстрэльвалася агнём процітанкавых агнявых сродкаў. Іншымі словамі, трэба біць танк у той час, калі ён выяўляе свае слабыя бакі. Спэцыяльныя процітанкавыя пушкі і батальённыя гарматы павінны разьмяшчацца такім чынам, каб агнявыя іх пазыцыі былі франтальнымі ў адносінах да імавернага руху танкаў, што дасьць магчымасьць страляць па танку у той час, калі ён ідзе на цэль. Частка гармат разьмяшчаецца паблізу перашкод з разьлікам уздоўжнага абстрэлу іх. Але гэтыя гарматы адкрываюць агонь па танках толькі тады, калі, натрапіўшы на сваім шляху на перашкоду, танк робіць паварот для яе абходу і рух ў новым напрамку, зьяўляючыся ў гэты момант у франтальным руху ў адносінах да пушак, якія стаяць напагатове.

Агнявыя процітанкавыя сродкі эшалёніруюцца ў глыбіню па ўсім абарончым раёне, выходзячы з таго меркаваньня, каб можна было паражаць танкі на ўсім шляху іх руху, пачынаючы з моманту згрупаваньня іх у выходным палажэньні для атакі, затым,—пры руху да пярэдняга краю абароны, потым у глыбіні абароны і, ўрэшце, ў раёне артылерыйскіх пазыцый і нават у бліжэйшым тылу.

Батарэі неабходна разьмяшчаць так, каб адна батарэя, у выпадку нападу на яе танкаў праціўніка, магла быць падтрымана агнём ня менш як дзьвюх другіх. Разьмяшчэньне ўсёй прызначанай для барацьбы з танкамі артылерыі павінна забясьпечваць вядзеньне агню прамой наводкай. Калі асноўныя артпазыцыі не даюць гэтай магчымасьці, на дыстанцыі да 1 *км* паблізу да іх могуць выбірацца дадатковыя пазыцыі, з якіх можна весьці агонь прамой наводкай. Пазыцыі гэтыя займаюцца батарэямі, калі танкі ўварвуцца ў глыбіню абарончага раёну. Батальённая і палкавая артылерыя ў барацьбе з танкамі выконвае тую-ж работу, што і спэцыяльныя проціганкавыя пушкі, і скарыстоўваецца часьцей за ўсё па гарматна ў якасьці кінжальных гармат; апошнія маскіруюцца і адкрываюць агонь толькі ў момант зьяўленьня танкаў непасрэдна проці іх. Для абману танкаў наладжваюцца фальшывыя батарэі, напрамак да якіх трымаецца пад агнём.

У сувязі з тым, што ў сучасных танкавых атаках прымае ўдзел адразу вялікая колькасьць танкаў,—проціганкавым пушкам прыходзіцца дзействаваць адначасова па некалькіх танках; з гэтай прычыны яны адкрываюць агонь з дыстанцыі прыблізна ў 1000 *м*. Агонь з малакаблiравых пушак звычайна адкрываецца з дыстанцыі 800—900 *м*. Пры разьмяшчэньні-ж гэтых пушак у глыбіні абароны

за вваротнымі спускамі вышынь, або за якімі-небудзь мясцовымі прадметамі, агонь з іх адкрываецца з вялікіх дыстанцый.

76 *мм* дывізійная пушка паражае ўсе тыпы танкаў, пачынаючы з адлегласьці 1500 *м*. Разьмяшчаюцца гэтыя гарматы ў глыбіні абароны. Агнявыя пазыцыі звычайна знаходзяцца ў 2—4 *км* ад пярэдняга краю. Улічваючы ўкрытае разьмяшчэньне агнявых пазыцый, гэтыя пушкі адкрываюць агонь звычайна з дыстанцыі каля 1000 *м*.

Корпусныя пушкі адным пападаньнем кожнага знараду выводзяць са строю любы танк. Спэцыяльнае выдзяленьне гэтых гармат для процітанкавай барацьбы робіцца толькі ў выпадках чаканьня атакі цяжкіх танкаў. Пры зьяўленьні іх яны адкрываюць агонь з дыстанцыі каля 1000 *м* з разьлікам: першымжа знарадам дабіцца пападаньня.

Цяжкія гаўбіцы і буйныя мінамёты вядуць агонь па мясцох згрупаваньня танкаў, па пяхаходных цяжкіх, таксама сярэдніх і лёгкіх танках, па загадзя падрыхтаваных даных. Іх агонь, нават у выпадку вядзеньня яго на працягу самага кароткага часу—ад 2 да 3 мінут, аказвае вялізарнае маральнае ўзьдзейнічаньне на наступаючага і наносіць яму адчувальныя матэрыяльныя разбурэньні.

## АКТЫЎНЫЯ І ПАСЫЎНЫЯ СРОДКІ ПТА

Існуючыя сродкі барацьбы з танкамі можна падзяліць на актыўныя і пасыўныя.

Актыўнымі або зьнішчальнымі сродкамі называюцца такія, якія могуць або зьнішчыць зусім, або вывесьці са строю (папсаваць) танк праціўніка. Да іх будуць адносіцца: гарматы ўсіх калібраў, у тым ліку і процітанкавыя, калібрам 15—20 *мм*, танкі, узброеныя пушкамі, буйнакалібравыя 13—15 *мм* кулямёты, спэцыяльныя буйнакалібравыя ружжы, ручныя гранаты, якія кідаюцца зьвязкамі непасрэдна пад танкі па 3—5 штук; звычайныя кулямёты і вінтоўкі, якія страляюць бронябойнымі кулямі; міны, фугасы, самалёты, якія атакоўваюць танкі ў момант іх перавозкі, ў час стаянкі ў парку, або ў момант разгортваньня іх перад атакай. Самымі асноўнымі актыўнымі ворагамі танкаў зьяўляюцца самі танкі, гарматы ўсіх калібраў, асабліва—спэцыяльныя процітанкавыя пушкі і кулямёты[1])

Большая колькасьць процітанкавых дробнакалібравых пушак разьмяшчаецца на зваротных спусках вышынь.

Глыбіня разьмяшчэньня асноўнай масы процітанкавых гармат пачынаецца ў сярэднім ў 1 *км* ад пярэдняга краю абароны.

---

[1]) Артылерыйскі огонь па танках вядзецца прамой наводкай.

Буйнакалібравыя кулямёты разьмяшчаюцца звычайна ў напрамках магчымага зьяўленьня танкаў, асабліва ў тых мясцох, дзе цяжка схаваць і замаскіраваць пушку. Ставяцца яны ня бліжэй 300 *м* ад раёну, які абстрэльваецца (дыстанцыя добрай бачнасьці з танка).

Станкавыя кулямёты і лепшыя ружэйныя стралкі расстрэльваюць танкі ва ўпор бранябойнымі кулямі, адкрываючы агонь толькі ў момант атакі гэтых кулямётаў танкамі. Увесь астатні час яны працягваюць выконваць сваю асноўную задачу—агонь па пяхоце праціўніка, якая ідзе ўсьлед за танкамі.

Усе агнявыя процітанкавыя сродкі павінны быць добра замаскіраваны ад наземнага і паветранага назіраньня праціўніка.

У час самой атакі танкаў паасобныя байцы, маючы загадзя падрыхтаваныя зьвязкі ручных гранат, кідаюць іх у танкі праціўніка, якія праходзяць каля іх, памятаючы, што дзейства ўзрыву зьвязкі спыніць танк толькі ў тым выпадку, калі будзе перабіты вусенічны ланцуг.

Астатнія стралкі ў апошні момант адкрываюць па назіральных шчылінах танкаў трапны агонь нават звычайнымі кулямі, якія, пападаючы на загартаваную паверхню броні, разрываюцца і распырскваюць у растопленым выглядзе, праз шчыліны, свой сьвінцовы стрыжань

## ХІМІЧНЫЯ І ІНЖЫНЭРНЫЯ СРОДКІ ПТА

Значную дапамогу ў барацьбе з танкамі дае і хімія. Газы праходзяць у сярэдзіну танкаў, што застаўляе танкістаў надзяваць процігазы і працаваць у іх; гэтым яшчэ больш ускладняецца назіраньне, якое і ў нармальных умовах зьяўляецца хворым месцам танка. Наладжваючы перад пярэднім краем абароны цяжкаабходныя, заражаныя устойлівымі АМ вучасткі мясцовасьці, можна прымусіць пяхоту праціўніка адарвацца ад танкаў, з якімі яна ідзе.

Пабудова фугасных і мінных палей вытвараецца спэцыяльнымі сапёрнымі часьцямі і ўваходзіць у плян інжынэрнага абсталяваньня раёну абароны. Інжынэрная падрыхтоўка да процітанкавай абароны заключаецца ва ўзмацненьні натуральных перашкод, а таксама ў пабудове штучных і закладцы мін. Да інжынэрнай-жа падрыхтоўкі адносіцца і збудаваньне рознага роду фальшывых пабудоў (акопаў, батарэй, драцяных загародак і інш.) Усе інжынэрныя работы павінны праводзіцца з асабліва строгім захаваньнем мер маскіроўкі, каб ня даць магчымасьці выведцы праціўніка вызначыць іх раней часу. Правільнасьць маскіроўкі інжынэрных работ правяраецца кантрольнымі здымкамі з самалётаў.

Інжынэрныя збудаваньні ў процітанкавай абароне павінны стварыць такія ўмовы, каб

танкі, нават распазнаўшы перашкоду, пры падыходзе да яе не маглі ісьці хутка і прама да цэлі, а прымушаны былі прасоўвацца марудна, зігзагамі, перастройвацца ў вузкія страі, тым самым аблягчаючы вядзеньне агню на іх усімі агнявымі сродкамі таго, хто абараняецца.

Карыстаючыся такога роду затрымкамі ў руху танкаў праціўніка, байцы ў абароне скрыжаваным ружэйна-кулямётным агнём адлучаюць ад танкаў пяхоту праціўніка, якая ідзе за імі.

Інжынэрныя збудаваньні робяцца з такім разьлікам, каб танкі, наткнуўшыся на добра замаскіраваныя штучныя або натуральныя перашкоды, папалі-б пад агонь нашай артылерыі, якая страляе прамой наводкай. Перашкоды павінны мець напрамак ня толькі ўздоўж фронту, але і папярок яго, ствараючы так званыя „адсекі", г. зн. невялікія вучасткі мясцовасьці, якія, будучы занятымі пяхотай у абароне, даюць апошняй магчымасьць добра абараняцца ад атакі танкаў, расстрэльваючы іх флянговым агнём (рыс. 14)

Уся сыстэма перашкод павінна або зусім выключаць магчымасьць праходжаньня танкаў праз пярэдні край абарончага раёну для прасоўваньня ў глыбіню яго, або прымушаць танкі ісьці толькі па пэўных напрамках, якія знаходзяцца пад надзейным абстрэлам процітанкавых агнявых сродкаў.




Рыс. 14. Абсталяваньне мясцовасьці для процітанкавай абароны. Будова адсекаў

Пры наяўнасьці перад абарончым раёнам або ў глыбіні яго якой-небудзь воднай прасторы (рэчкі, возера, балота і да т. п.) можна шляхам адводу вады або гаці рабіць частковае забалочваньне мясцовасьці ў раёне абароны, або канаў; каб зрабіць іх недаступнымі для танкаў, праводзяцца работы па пашырэньні іх (калі трэба) і павялічваецца крутасьць іх спускаў (эскарпіраваньне).

Калі ёсьць час і падручны матэрыял, выкопваюцца спэцыяльныя канавы і равы дастатковай глыбіні, наладжваюцца танкавыя пасткі, будуюцца каменныя сьцены і барыкады і да т. п; усе гэта старанна маскіруецца, акопы, якія ёсьць, перакрываюцца бярвеньнямі і засыпаюцца зьверху зямлёй, утвараючы як бы страху над акопам; страха гэта робіцца на столькі масыўна, каб яна вытрымлівала на сабе рух танка. Байцы, якія знаходзяцца ў такім акопе, з прыбліжэньнем танкаў хаваюцца ў закрыцьце і, пасьля праходу іх, агнём, а то і штыхом спыняюць пяхоту праціўніка, якая ідзе за танкамі.

Пры наяўнасьці перад пярэднім краем абароны або ўнутры абарончага раёну лясістых вучасткаў або асобных гаёў, праходных танкамі (рэдкі лес), апошнія прыстасоўваюцца да абароны, дзеля чаго на ўскраіне ў бок наступаючага робяцца фальшывыя засекі з тоўстых дрэў, якія падсякаюцца на вышыні

ад кораню 50—70 *см* і валяцца вяршынамі ў бок ад праціўніка. Танкі робяць спробу забрацца наверх засекі, сілай сваёй вагі ломяць дрэвы, але пры гэтым не заўсёды абедзьвюма вусеніцамі пападаюць на пні і могуць або павіснуць у паветры, або за грунт будуць чапляцца толькі аднэй вусеніцай, чаго можа быць недастаткова, каб танк крануўся з месца (рыс. 15).

Пры наладжваньні засекі, дрэвы валяцца ў бок да праціўніка, каб ня даць танку магчымасьці ўзабрацца на пні па іх ствалох.



Рыс. 15. Пняваньне і засекі.

Адначасова, гэтая-ж засека можа аплятацца калючым дротам, каб замарудзіць, а часам спыніць, прасоўваньне пяхоты праціўніка, якая ідзе за тонкамі і будзе знаходзіцца пад убойным агнём таго, хто абараняецца, калі пачне прабірацца праз засеку. Такія засекі наладжваюцца у праходным для танкаў лесе ў некалькі радоў.

У мясцох, дзе няма лесу і няма іншых натуральных перашкод, наладжваюцца так званыя „надоўбы“ (рыс. 16).

У шахматным парадку на адлегласьці адна ад другой 1—$1^1/_2$ *м* дастаткова глыбока (на 2 *м*) і моцна ўбіваюцца ў зямлю рознай вышыні жалезныя рэйкі або ствалы дрэў таўшчынёй каля 40 *см*, з нахілам каля 70° у бок, адкуль чакаюцца танкі праціўніка. Вышыня „надоўбу“ павінна быць ня ніжэй 80—100 *см*. Цяжкасьць наладжваньня „надоўбу“ абмяжоўвае ўжываньне іх толькі для загароды цясьнін. Танк у большасьці выпадкаў



Рыс. 16. Надоўбы

не перамагае вышэйпералічаных перашкод, а робіць павароты для абходу іх, чым замаруджвае свой рух і палягчае ўмовы стральбы для тых, хто абараняецца.

Міны (фугасы) павінны быць разьмешчаны так, каб танк ні ў якім выпадку ня мог праехаць праз мінную (фугасную) загароду бесьперашкодна. Разьмяшчаюцца яны ў шахматным парадку ня менш, чым ў два рады. Міннае поле робіцца ад лініі акопаў ня бліжэй чым на 200—250 *м*. Сіла зараду міны разьлічана на магчымасьць перабіць вусеніцу танка. Звычайна міны з зарадам у 10—15 *кг* драбільнай узрыўной матэрыі ня глыбока закопваюцца ў зямлю. Міна ўзрываецца ад капсуля, на які пры руху націскае танк. Такія міны называюцца самаўзрыўнымі. Часам яны злучаюцца паміж сабой электрычным або дэтаніруючым (хутка ўзрываючым) шнурам.



Рыс. 17. Міны (фугасы)

У гэтым выпадку ўзрыў усяго міннага (фугаснага) поля адбываецца адначасова. Складанасьць устаноўкі мін залежыць ад іх сыстэмы і ўмоў скарыстаньня (рыс. 17 і 18).

У манэўранай вайне пры недахопе часу наладжваньне міннай загароды апісанага вышэй тыпу будзе мець цяжкасьць; у гэтым выпадку можна з посьпехам ужываць перакосныя міны (рыс. 19), якія раскідваюцца па

полі на інтэрвалах у 1,8 *м* і рад ад раду ў 3,6 *м* у шахматным парадку. Укопваць іх у зямлю даводзіцца толькі на дарогах і зусім голай зямлі; у астатніх выпадках яны проста раскідваюцца ў траве, пасевах, кустох і інш. Вага іх ад 2 да 2,5 *кг*. Узрываюцца яны пад сілаю вагі танка, які праходзіць, перабіваю чы яму вусенічны ход.

Міннае поле ва ўсіх выпадках павінна быць старанна замаскіравана. Вялікую карысьць пры гэтым прынясуць фальшывыя мінныя палі.

Пры адсутнасьці мін, яны могуць быць заменены звычайнымі ручнымі гранатамі з трубкай,



Рыс. 18. Мінныя фугасныя процітанкавыя перашкоды

прыстасаванай да імгненнага ўзрыву. Для ўзры ву зараду пад танкам могуць быць скарыстаны і іншыя прасьцейшыя, якія адпаведна прыста-



Рыс. 19. Германская пераносная процітанкавая міна тыпу „ЮХ“

соўваюцца, узрывацелі як, напрыклад, ружэйныя ствалы, якія вышлі з ужываньня, і інш.

З усяго вышэйсказанага мы бачым, наколькі складанай зьяўлецца работа, зьвязаная з процітанкавай абаронай. З гэтай прычыны чоткае веданьне кожным байцом слабых і моцных бакоў танка, веданьне асноў процітанкавай абароны, цьвёрдае веданьне асноў барацьбы з танкамі кожным байцом, яснае і сьвядомае разуменьне байцамі ўсей сыстэмы процітанкавай абароны і старанная арганізацыя яе ў значнай меры палягчаюць барацьбу з танкамі. Сіла волі, уменьне трымаць сябе ў руках у час руху танкаў у атаку—лепшы залог посьпеху бою. Часьці, якая абараняецца і ў якой добра арганізавана процітанкавая абарона,—танкі праціўніка ня страшны.

## ПРОЦІТАНКАВАЯ АБАРОНА НА МАРШЫ

Да гэтага часу мы гаварылі аб процітанкавай абароне, якая арганізуецца ва ўсіх вы-

падках, калі на тым або іншым вучастку чакаюць зьяўленьня танкаў праціўніка, якія падтрымліваюць агульнае наступленьне пяхоты. У нас такія танкі носяць назву: танкаў НПП—непасрэднага падрыманьня пяхоты; танкаў ДПП—дальняга падрыманьня пяхоты і танкаў ДД—дальняга дзейства (для барацьбы з артылерыяй праціўніка). Буйныя капіталістычныя краіны ў сучасны момант скарыстоўваюць танкі і ў складзе так званых мэханізаваных злучэньняў (МЗ). Гэтыя злучэньні маюць у сваім складзе танкі, танкеткі, матарызаваную артылерыю, кулямётныя часьці і пяхоту і прызначаюцца для нанясеньня праціўніку раптоўных удараў у глыбіні яго разьмяшчэньня, пасьля таго, як МЗ прарве або абойдзе флянг праціўніка.

Галоўную сілу ў аснове МЗ складаюць танкі, якія і наносяць удар. Хуткасьць руху і пастаянная гатоўнасьць к бою МЗ дае ім шырокую магчымасьць рабіць раптоўны напад на паходныя калёны войск, якія на хаду павінны ўмець строіць сваю процітанкавую абарону. Для праходу агульнавайсковай або пяхотнай калёны трэба перш за ўсё выбраць такую дарогу, якая прыкрывалася-б з флянгу або сьпераду якой-небудзь натуральнэй перашкодай, недаступнай для руху МЗ (напрыклад рака, лес і да т. п.). Гэта прымусіць МЗ праціўніка рабіць абходы, што зьменшыць хуткасьць яго прасоўваньня. Апра

ча таго, поблізу дарогі пажадана мець дастатковую колькасьць масак (гаёў, насельных пунктаў, лясных вучасткаў) каб у выпадку нападу МЗ даць магчымасьць схавацца ад танкаў.

Для пасьпешнай барацьбы з МЗ трэба выявіць яго магчыма далей ад калёны, хутка паведаміць аб яго зьяўленьні, калі можна—затрымаць МЗ передавымі часьцямі, заставіць пяхоту праціўніка, якая знаходзіцца на аўтамабілях, сьпяшыцца і тым самым даць магчымасьць сваім часьцям, якія знаходзяцца ў руху, падрыхтавацца да барацьбы з танкамі. Своечасовае выяўленьне МЗ складае задачу выведкі. Выведка павінна высылацца на шырокім фронце на адлегласьці 1-3 пераходаў. Моцныя разьезды трэба высылаць па дарогах, годных для руху матарызаваных часьцей.

Самым выгадным сродкам земнай выведкі зьяўляецца высылка на 1-2 пераходы моцных выведчых атрадаў з пушкамі, кулямётамі на машынах, лёгкімі танкамі, танкеткамі, а таксама—хімікамі і сапёрамі для заражэньня вучастку дарог або разбурэньня мастоў.

Усе выведчыя органы павінны быць забясьпечаны сродкамі хуткай перадачы данясеньняў, каб пасьпець папярэдзіць свае часьці аб зьяўленьні МЗ праціўніка. У праціўным выпадку апошнія, карыстаючыся хуткасьцю свайго руху, зробяць раптоўны налёт на калёну і прывядуць яе ў растройства. Такімі

сродкамі. перадачы зьяўляюцца радыётэлефоны, матацыклы, легкавыя аўтамабілі і інш.

З мэтай папярэджаньня нападу МЗ, праводзіцца таксама высылка наперад, так званых перадавых атрадаў, моцных па сваім складзе, з задачай захопу цясьнін і пераправаў на шляху рухукалён раней праціўніка і астаноўкі яго МЗ.

*Для* непасрэднага ахаваньня калён неабходна мець кругавое ахаваньне, якое рухаецца на адлегласьці да 3 *км* у залежнасьці ад мясцовасьці, з захаваньнем узаемнай сувязі Паміж калёнамі і ахавальнымі органамі знаходзяцца дазоры, якія і зьяўляюцца перадавальнікамі сыгналаў. Сыгналы—выключна сьветавыя (ракеты).

Вялікую карысьць у справе выяўленьня МЗ і сваячасовага паведамленьня аб гэтым калёне сваіх часьцей аказвае авіяцыя. З гэтай прычыны ўсе дарогі, годныя для руху матарызаваных часьцей, ня менш чым на 100-125 *км* наперад і на флянгах руху сваіх часьцей павінны старанна аглядацца самалётамі. У выпадку выяўленьня праціўніка авіяцыя перадае сваім войскам па радыё або ўмоўнымі сыгналамі, адначасова працягваючы бесьперапыннае назіраньне.

На маршы, як і ў абароне на месцы, важная роля ў барацьбе з танкамі належыць артылерыі, чаму яна і разьмяркоўваецца па ўсёй калёне. Найбольшая колькасьць артылерыі

ідзе пры галаўным падразьдзяленьні, бо яму хутчэй усяго прыдзецца прыняць на сябе галоўны ўдар танкаў МЗ.

Уся калёна павінна складацца з цэлага раду асобных калён, даўжынёю кожная—ня больш 1 *км*, каб не прадстаўляць выгаднай шырокай цэлі для ўдарнай групы танкаў, якая займае па фронце да 2 *км*. Так, напрыклад, калёна сучаснага кавалерыйскага палка, які прасоўваецца пад пагрозай МЗ, павінна становіць сабой 2 калёны: 1-я—сілай у 3 шабельных эскадроны і 2-я—2 эскадроны, або, наадварот, мець дастатковую насычанасьць кулямётамі і артылерыяй у абедзьвюх калёнах. Дыстанцыя між гэтымі калёнамі павінна быць да 1 *км*. Начальнік, які вядзе калёну, павінен мець у сябе загадзя складзены плян дзействаў на выпадак сустрэчы з МЗ праціўніка, на ўсіх больш-менш выгадных для нападу рубяжох па шляхох свайго руху. Начальнікам процітанкавай абароны як на месцы, так і на маршы, звычайна назначаецца старшы артылерыйскі начальнік даннага вайсковага злучэньня. У час сустрэчы з праціўнікам байцы скарыстоўваюць у поўнай меры ўсе, якія ёсьць, натуральныя маскі (гаі, хмызьняк, населеныя пункты і інш.), якія даюць укрыцьце і маскіроўку, а артылерыя займае тут-жа каля дарогі агнявыя пазыцыі і сустракае праціўніка агнём прамой

наводкі. Адбіўшы атакі МЗ, калёна ідзе далей у поўнай гатоўнасьці сустрэць новую атаку.

З усяго вышэйапісанага мы бачым, што выведка, хуткасьць апавяшчэньня і правільнае пастраеньне самой калёны ў сэнсе разьмеркаваньня ў ёй артылерыі—ёсьць важнейшыя мерапрыемствы ПТА на маршы. Гэтыя асноўныя элемэнты пры правільнай іх арганізацыі даюць магчымасьць праводзіць марш больш-менш спакойна, а ў выпадку зьяўленьня праціўніка пасьпець своечасова падзяліцца на часткі і сустрэць яго агнём сваёй артылерыі

---

Зьмест. Стар

